

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№3 (275) ЛЮТЫ 2020 ГОД

З ЗАЛЫ СУДА

# АПОШНЯЕ СЛОВА СНАРАВА

**На судзе выступіў былы кіраўнік Шумілінскага раёна Аляксандр Снараў – яго абвінавачваюць у карупцыі – 30 студзеня з апошнім словам. У сваю абарону Снараў казаў, што ён заўсёды і ўсюды «стараўся працаваць з душой».**

Экс-старшыню Шумілінскага райвыканкама абвінавачваюць ва ўхіленні ад пагашэння крэдыторскай запазычанасці; злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі; перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў; службовым падлогу з мэтай скажэння справаздачнасці; атрыманні хабару паўторна або ў буйным памеры.

Па матэрыялах справы, злоўжыванне ўладай і перавышэнне службовых паўнамоцтваў Аляксандр Снараў здзейсніў на пасадзе кіраўніка раёна. А ўхіленне ад пагашэння крэдыту, службовы падлог і атрыманне хабару – яшчэ як быў дырэктарам «Крынак».

«Продаж жывёлы ніжэй за сабекошт была вымушанай мерай»

Адзін з эпізодаў справы, па якой абвінавачваюць Снарава, адбыўся ў 2013-2015 гадах, калі ён кіраваў сельгаспрадпрыемствам «Крынкі». Тады, па дадзеных следства, ён прадаў 539 галоў буйной рагатай жывёлы па цэнах ніжэй за сабекошт на суму 213,6 тысячы рублёў. Шкода прадпрыемству склала амаль 188 тысяч рублёў.

На спрэчках у судзе Снараў заявіў, што шкоду «Крынкам» кампенсаваць не мае намеру.

– Не прызнаю сябе вінаватым. І ў дваццаты раз паўтараю: я не нанёс ніякага шкоды гэтаму прадпрыемству. Наадварот, я вывеў яго на належны ўзровень, а цяпер яно фактычна банкрут.

Апошняе слова ў судзе Снараў прамаўляў 50 хвілін.

Паводле яго слоў, калі ён узначаліў «Крынкі», у гаспадаркі была запазычанасць па заробку за 4 месяцы і вялікія даўгі «мноству прадпрыемстваў». Аднаму толькі Віцебскаму мясакамбінату павінны былі больш за 20 тысяч рублёў. За 4 гады ў «Крынках» памяняліся два кіраўніка, Снараў стаў трэцім.

– Перад мной стаялі задачы – выплачваць зарплату своечасова, нарошчваць аб'ёмы прадукцыі: малака, мяса, збожжа, рапсу, а таксама весці нарыхтоўку кармоў, рыхтаваць тэхніку, увогуле эфектыўна весці працу сельгаспрадпрыемства.

З гэтымі задачамі, як лічыць Снараў, ён справіўся. Абвінавачаны агучыў статыстыку, згодна з якой у тыя гады, калі ён кіраваў гаспадаркай, тут павялічыліся паказчыкі па нарыхтоўцы збожжа і рапсу, па надоях малака і яго продажы.

У выніку ў 2015 годзе гаспадарка пагасіла даўгі перад віцебскім ААТ «Малако» на 1 млрд 800 тысяч рублёў (да дэнамінацыі).

– Гэта проста касмічная лічба! – лічыць абвінавачаны.

Працаўнікам «Крынак», па словах Снарова, сталі плаціць зарплату.

У 2013 годзе сярэднямесячная зарплата была роўная 245 рублям, у 2014-м - 281 рубля, у 2015 - 323 рублям. Гэта значыць тое, чаго ад нас патрабаваў кіраўнік дзяржавы, мы імкнуліся трымацца. І не толькі прытрымлівацца, а зарабляць.

Пры гэтым штат работнікаў «аптымізавалі»: са 135 чалавек у 2013-м да 99 чалавек у 2015-м.

З нагоды продажу жывёлы ніжэй за сабекошт абвінавачаны заўважыў:

– Гэта не адзін Снараў так працаваў. Так сёння ўся вобласць працуе.

І патлумачыў, чаму, да прыкладу, прадаў па такой схеме шэсць бычкоў:

– Каб захаваць людзей, якія сядзелі без зарплаты. 50-60% яе адсоткаў ім у той час аддавалі натураплаце. А людзям трэба было плаціць за святло, за газ, за школу, за сад. Лічу, што я рабіў усё, каб не разбурыць сельгаспрадпрыемства. Продаж жывёлы ніжэй за сабекошт - гэта па ўсёй вобласці адбывалася. Гэта была вымушаная мера. Іншых крыніц для забеспячэння захаванасці людзей, неабгрунтаванага развалу гаспадаркі проста не было.

Па словах Снарова, «сабекошт жывёлы ні разу не агаворвалася ні на якіх нарадах: ні ў вобласці, ні ў раёне».

Аляксандра Снарова таксама абвінавачваюць у тым, што ён набыў для гаспадаркі дзве машыны, хоць у «Крынак» былі даўгі, і па загаду № 119, прадпрыемства не мела права купляць аўтамабіль.

На гэты конт абвінавачаны заявіў, што першы аўтамабіль – «Ніву» «самай простай камплектацыі ён набыў з дазволу тагачаснага кіраўніка райвыканкама Івана Лаўрыновіча. За куплю, па словах Снарава, гаспадарка разлічылася продажам «усяго 400 кг травы», а таксама збожжам.

Пакуль у «Крынкі» не купілі «Ніву», як кажа Снараў, ён ездзіў па працы на сваім асабістым аўто:

– І я яго практычна дабіў.

Потым у гаспадарцы, па словах Снарова, «згарэў УАЗ», і вырашылі купіць другую машыну. Гэта таксама зрабілі па ўзгадненні з Лаўрыновіч:

–Новы аўтамабіль купілі ў кошт будучага ўраджаю, практычна ў крэдыт.

Па словах Снарова, ён не дапусціў падчас свайго кіраўніцтва «Крынкі» склону жывёлы:

– Прэзідэнт наш патрабуе захаваць пагалоўе, не дапусціць склону. 92 тысячы галоў жывёлы па Віцебскай вобласці загінула, мы чулі такія дадзеныя. Я гэтага ў «Крынках» не дапусціў. І плюс да гэтага мая задача была падтрымаць гэтую гаспадарку. Таму не выраўноўваць платы, не пабаяліць адрыны было б для мяне проста злачынствам. Кар'ерызм я ніколі не вітаў. Мы проста працавалі дзень і ноч, каб прадпрыемства жыло і развівалася.

Аляксандр Снараў адзначыў, што на кожнай пасадзе ён заўсёды «працаваў з душой».

У канцы Снараў спаслаўся на словы прэзідэнта, якія на нарадзе 28 студзеня па развіццю АПК у Віцебскай вобласці заявіў чыноўнікам:

– Пытанне ў выратаванні вобласці і сялян. А каб іх выратаваць, іх трэба там аб'яднаць і прымусіць працаваць. І заплаціць ім грошы. І захаваць нашых людзей і выплаціць ім годную зарплату, хоць бы вышэй за 500 рублёў. І я стараюся рабіць гэта дакладна так, як і ў «Крынках».

**tyt. by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ГІБЕЛЬ ЖЫВЁЛЫ Ў КАЛГАСАХ

**У 2019 годзе на Віцебшчыне загінула 11 460 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

13 крымінальных спраў распачата ў Віцебскай вобласці па фактах унясення загадзя ілжывых звестак у дакументы аб рэалізацыі і здыхаты жывёл. Памяншэнне малочнага статка адбылося ў дзевяці раёнах, уключаючы і Шумілінскі.

Зніжэнне пагалоўя кароў малочнага статка зафіксавана пракуратурай у дзевяці раёнах рэгіёну: Бешанковіцкім, Браслаўскім, Глыбоцкім, Гарадоцкім, Докшыцкім, Сенненскім, Талачынскім, Чашніцкім, і Шумілінскім. Часцяком з-за недахопу ўласных абаротных сродкаў гаспадаркі рэалізоўвалі быдла з мэтай забеспячэння вытворчых працэсаў і выплаты заробатнай платы, паведамляе служба інфармацыі пракуратуры Віцебскай вобласці.

У 2019 годзе пракуроры Віцебшчыны правялі 61 праверку ў частцы захаванасці ўласнасці сельскагаспадарчых арганізацый, па іх выніках падрыхтавалі 87 уяўленняў аб ліквідацыі парушэнняў законнасці.

Толькі па лініі аднаўлення пагалоўя буйной рагатай жывёлы (далей — буйной рагатай жывёлы) органы пракуратуры вобласці ўнеслі 62 прадстаўленні, ініцыявалі прыцягненне 486 асоб да дысцыплінарнай, 84 — адміністрацыйнай, 173 — матэрыяльнай адказнасці ў памеры больш за 14 тыс. рублёў.

Было прад'яўлена 27 іскавых заяў аб кампенсацыі шкоды, нанесенай гібеллю і нястачай жывёлы, у суме больш за 11 тысяч рублёў. У парадку выканання судовых рашэнняў спагнана 3,9 тыс. рублёў.

Да прыкладу, год таму пракурор Талачынскага раёна ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да намесніка дырэктара па вытворчасці ААТ, пра злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі па частцы 2 артыкула 424 КК. Намеснік схаваў гібель 43 галоў буйной рагатай жывёлы, а таксама фальсіфікаваў дадзеныя пакупнікоў, якім рэалізавалі прадукцыю, атрыманую ад вымушанага забою 97 жывёл . Мужчыну прызналі вінаватым і прысудзілі да 3 гадоў пазбаўлення волі, праўда, далі адтэрміноўку на тры гады.

**Алесь Шумскі**

ГАНДАЛЬ

# ШТО ЗАСТАЛОСЯ АД РАЙПО?

**Доля райпо Шумілінскім раёне скарацілася да 13%.**

Так, за апошнія некалькі гадоў у Шуміліна, Обаль, Светласельскім, Мікі-цісе, Крывым Сяле, Язвіна з'явілася 12 новых крам. Яшчэ

***(працяг на стр. 2)***

ПАСЛУГІ І СЕРВІС

# ТЭРМІНАЛ ЭЛЕКТРОННАЙ ЧАРГІ

**У пачатку студзяня на цэнтральнай пошце горпасёлка Шуміліна быў усталяваны тэрмінал электроннай чаргі. Такім чынам, навоўвядзенне значна паспрыяла для камфорту і зручнасці шумілінскіх кліентаў. Варта адзначыць, што да гэтага часу падобная сістэма існавала пакуль што толькі ў гарадах.**

Цяпер на цэнтральнай пошце новая сістэма працуе наступнай схеме. На маніторы тэрмінала чарговы кліент выбірае патрэбную яму паслугу (“плацяжы”, “прыём і выдача паштовых адпраўленняў, пераводы, рэалізацыя паштовак, канвертаў, марак” ці “іншыя паслугі”), забірае талончык і чакае, калі яго запросяць.

Падчас працэсу наведвальнік зможа нават прысесці і крыху адпачыць на мяккіх канапах, устаноўленых у холе будынка пошты. А калі падыдзе яго чарга, прагучыць аўдыётэкст з нумарам талона, нумар талона з'явіцца на спецыяльным маніторы і на акенцы.

Безумоўна, укараненне такой электроннай чаргі мае рацыю. І кіраўніцтва пошты упэўнена, што стварэнне максімальна камфортных ўмоваў для людзей пры аплаце тых ці іншых паслуг паспрыяе больш эфектыўнай рабоце арганізацыі.

**М. Амбросаў**

ГАНДАЛЬ

*(пачатак на стр. 1)*

9 аб'ектаў знаходзяцца ў стадыі рамонту. Раней яны належалі мясцоваму райпо, а цяпер – уласнасць прадпрымальніцкіх структур.

У вёсках профіль гандлёвых кропак не змяніўся, як і раней, гэта той жа сельмаг, дзе можна купіць усё: ад прадуктаў харчавання да тавараў гаспадарчага прызначэння. У гарадскія ж пасёлкі, а таксама якія прымыкаюць да іх населеныя пункты разам з невялікімі крамамі прыйшлі таксама буйныя розлічныя сеткі – «Дабраном», «Еўраопт», «Санта».

Развіваецца агульнахарчовы сервіс, хоць і не так актыўна, як гандаль. У Шуміліна, Обаль і Мікіцісе за апошнія гады расчыніліі дзверы пяць новых кафэ.

Да прыкладу, у канцы мінулага года ў цэнтры Шуміліна пачала дзейнічаць закусачная «Кофехаус», дзе можна не толькі паспрабаваць якасную піцу, але і выпіць смачнага кавы. Кафэ разлічана на 19 месцаў, радуе вока прыемным інтэр'ерам.

Пры ўсіх пераменах пакупнікі попыт, па ацэнцы мясцовых эканамістаў, задаволены далёка не цалкам.

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

СПОРТ

# ГАННА СОЛА ВЫЙШЛА Ў ФІНАЛ

**Уражэнка Шуміліна Ганна Сола і біятланістка з Сянно Ірына Крыўко прайшлі ў фінал суперспрынта на чэмпіянаце Еўропы ў «Раўбічах».**

Таксама гонар Беларусі будзе абараняць Дынара Алімбекава і Адэліна Сабітава.

Пра гэта паведамляе "біятлон online"

Адкрыты чэмпіянат Еўропы. Мінск-Раўбічы. Супер-спрынт. Кваліфікацыя. Жанчыны. вынікі:

8. Ірына Крыўко (1+3) +20.3
10. Дынара Алімбекава (1+2) +36.0
20. Анна Сола (4+3) +1:16.0
24. Адэліна Сабітава (2+2) +1:39.5
49. Ірына Кручынкіна
59. Алена Кручынкіна

Ірына і Алена Кручынкіны не адабраліся ў фінальную частку.

Карэспандэнтка: "Першы дзень, першая гонка. Наколькі камфортна было ўкаціцца?"

Ганна Сола: .."Траса цяжкая, нават на трэніроўцы было таксама цяжка...І думала, як гэта справіцца".

Карэспандэнтка: "Калі параўнаць па надвор'ю, на той жа трэніроўцы - надвор'е пераменнае і ноччу такія ньюансы ўзнікаюць, тады калі цяжэй?"

Ганна Сола: "Ой, мы прыехалі зусім нядаўна, таму ўчора была такая ж траса і такое ж адчуванне засталося."

Карэспандэнтка: "Вярнуліся з Антхольца, а як перапад высот – уздзейнічае, ці адчуваецца яшчэ?"

Ганна Сола: Так адчуванне ў прынцыпе неблагое, хіба што з-за трасы зводзіць ногі. Ну, усе ў аднолькавых умовах, таму скардзіцца на трасу не бачу сэнсу."

Карэспандэнтка: "Наколькі вам падабаецца суперспрынт, наколькі падабаецца такая дыстанцыя?"

Ганна Сола: Ой, цяжка сказаць. Як і усе астатнія. Ёсць над чым працаваць, задумацца".

**Алесь Прыбярэжны**

ВАЛАЦЁРСКІ РУХ

# КАНТЭЙНЕР ДЛЯ ПРЭПАРАТАЎ

**У Шуміліне плануюць усталяваць першы ў вобласці кантэйнер для збору пратэрмінаваных лекавых прэпаратаў.**

На Віцебшчыне школьнікі падключыліся да ліквідацыі пратэрмінаваных лекаў. З такой ініцыятывай выступілі вучні 3-га класа Шумілінскай СШ № 1 Кірыл Донюш і Арсень Кулікоў, якія ўваходзяць у мясцовае рух «ЭкоБум». Яны заклікалі аднагодкаў і бацькоў праінспектаваць хатнія аптэчкі і прынесці ў школу непрыдатныя медыцынскія прэпараты.

З дапамогай настаўнікаў з «ЭкоБума» хлопцы ацанілі пратэрмінаваную фармацэўтычную прадукцыю, выявіўшы небяспечныя мазі і таблеткі.

А затым школьнікі даставілі іх у офіс віцебскай кампаніі «Витэколайн», якая спецыялізуецца на знішчэнні шкодных рэчываў.

Праведзеная акцыя, перш за ўсё, ставіла сваёй мэтай прыцягнуць увагу да праблемы. Вядома, што ртуць і старыя батарэйкі ўяўляюць небяспеку. Устаноўлены асаблівы рэжым зборуіліквідацыігэтыхпрадуктаў. Але мала хто з нас уяўляе, якую шкоду наносяць навакольнаму асяроддзю пратэрмінаваныя лекі і адходы фармацэўтычнай прамысловасці. У нас пакуль асобна іх не сарціруюць. Трапляючы з іншым смеццем на звалкі, яны атручваюць глебу і падземнымі водамі разносяцца на вялікія адлегласці. Гэта наносіць незаменны ўрон прыродзе. Найбольш уразлівымі для дзеяння лекаў аказваюцца земнаводныя, рыбы, некаторыя жывёлы і птушкі. Сістэмы збору пратэрмінаваных прэпаратаў існуюць ва ўсіх развітых краінах свету.

Першымі ў Беларусі з падобным праектам выступілі лекары паліклінікі №40 Мінска, якія мінулым летам ўсталявалі ля ўваходу ва ўстанову спецыяльны кантэйнер і сабралі 35 кілаграмаў фармацэўтычных адходаў. Карыснае пачынанне падтрымалі энтузіясты з Баранавічаў і Пінска. І вось зараз гэтая ініцыятыва падхопленая на Віцебшчыне. Чакаецца, што ў хуткім часе першы ў галіне кантэйнер для збору пратэрмінаваных лекавых прэпаратаў з'явіцца ля ўваходу ў паліклініку Шумілінскай ЦРБ.

**vitvesti.by**
**пераклад з расейскай рэдактара**

КРЫМІНАЛ

# ЯК "ВЫБІВАЛІ" АЛІМЕНТЫ

**У Шумілінскім раёне двое мужчын збівалі біялагічнага бацьку дзіцяці адной сужыцелькі, з якога патрабавалі неіснуючыя «аліменты».**

Крымінальную справу завялі ў Шумілінскім РАУС да адносінах да двух мужчын, якіх падазраюць у «выбіванні» нібыта даўгоў па аліментах.

Гэта крымінальная гісторыя пачалася днём 1 студзеня з-за няпростых узаемаадносін двух былых мужа і жонкі. Сям'я пражывала на Шумілліншчыне – у іх нарадзілася дзіця. Пасля таго, як шлюб распаўся, жанчына пераехала ў Наваполацк, дзе і знайшла сабе новага сужыцеля.

Менавіта гэты сужыцель разам са сваім знаёмым і вырашыў "выбіць" з вяскоўца нібыта належныя яго каханай аліменты. Аднак варта адзначыць, што жанчына да былога мужа фінансавых прэтэнзій пасля разводу не мела.

Перадусім абое знаёмых 42-двух і 38-мі гадоў выпівалі разам і ў нейкі момант вырашылі "пакараць крыўдзіцеля" - адправіліся да яго дадому.

Там парачка вымагацеляў збіла пацярпелага і стала патрабаваць ад яго "абавязак на ўтрыманне дзіцяці".

Вясковец напалохаўся і прапанаваў прайсці да банкамата, дзе можна было зняць наяўнасць. На месцы банкамата мужчына некалькі разоў няправільна ўвёў пін-код, тады падазраваныя зразумелі, што іх падманваюць. Таму яны яшчэ раз збілі пацярпелага, які заверыў вымагацеляў, што аддасць грошы дома.

Але калі атрымалі 5000 расійскіх рублёў, падазраваныя не адчапіліся ад мужчыны. Яны ўжо ўтрох адправіліся да былой жонкі вяскоўца, дзе прымусілі апошняга прасіць прабачэння. Атрыманыя грошы яны аддалі жанчыне, але з умовай, што яна абмяняе іх на беларускія рублі і верне ім назад.

Пацярпелы жыхар Шумілінскага раёна праз дзень звярнуўся з заявай у мясцовы РАУС. Праваахоўнікі ўстанавілі ўсе абставіны здарэння. Следчымі ў дачыненні да падазроных распачата крымінальная справа, паведамляе аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Віцебскага аблвыканкама.

**У. Прылуцкі**

КРАДЗЯЖЫ

# СКРАЎ КАЎБАСУ У «ЕЎРАОПЦЕ»

**У магазіне «Еўраопт» у Шуміліне спрацавала кропка трывожнай сігналізацыі. Супрацоўнікі аддзялення па ахове аб'ектаў Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь выехалі на месца здарэння.**

Злачынца, які ўкраў з гандлёвай залы батон каўбасы, паспеў уцячы. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку РАУС па гарачых слядах знайшлі злодзея, ім аказаўся жыхар вёскі Прыазёрная.

Украдзенае канфіскавана. Мужчыну пагражае абмежаванне волі да 4 гадоў або пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

# МАХЛЯР

**Шумілінец хацеў болей зарабіць, а папаўся на махлярстве.**

Супраць жыхара райцэнтра ўзбуджана крымінальная справа за махлярства. Мужчына, які працаваў на дзяржаўным прадпрыемстве па дагаворы падраду ў адным з суседніх раёнаў, умудрыўся яшчэ аформіць дапамогу па доглядзе за інвалідам першай групы. Хаця не меў права гэтага рабіць.

За махлярства мужчыну пагражае абмежаванне волі да 3-х гадоў або пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў МНС і УУС**

# ВЕЛАСІПЕД

**У жыхара Мікіціхі прапаў веласіпед маркі "Стэлс". Перадусім гаспадар неабачліва пакінуў свайго двухколавага сябра каля гаспадарчай пабудовы без нагляду.**

Як устанавілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку, на чужы транспартны сродак пакваліўся мясцовы жыхар. Цяпер мужчыне за крадзёж пагражае пакаранне пазбаўленне волі да трох гадоў. Веласіпед быў канфіскаваны і яго вярнулі гаспадару.

# ЭЛЕКТРАПЛІТКА

**У жыхара вёскі Залессе з асабістага дома невядомы вынес электраплітку і прадукты харчавання. Нанесены ўрон аценьваўся болей, як на 60 рублёў.**

Па гарачых слядах злачынства было аператыўна раскрыта. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку вылічылі зламысніка – ім аказаўся жыхар райцэнтра, на рахунку якога аж 12 (!) судзімасцяў. За ўчынены крадзёж супраць мужчыны заведзена чарговая крымінальная справа.

ПАЖАР

# ЗНАЙШЛІ ТРУП У СКЛЕПЕ

**Труп мужчыны выявілі выратавальнікі пры тушэнні пажару ў прыватным жылым доме ў вёсцы Жданаўка Шумілінскага раёна.**

Інфармацыю аб узгаранні работнікі МНС атрымалі вечарам 26 студзеня, паведамляе афіцыйны сайт Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.

Падразздзялення МНС аператыўна прыбылі на месца здарэння, калі двухкватэрны аднапавярховы дом гарэў адкрытым полымем.

Адна з кватэр была нежылая, у другой пражываў пенсіянер 1954 года нараджэння. Калі пачаўся пажар, ён знаходзіўся ў доме. Яго цела было выяўлена ратавальнікамі ў прагарэлай падлозе ў склепе на глыбіні 1,5 м у пакоі, пад пластом канструкцый, якія абрынуліся.

Пажар знішчыў у доме дах, паталочнае перакрыцце, маёмасць. Пашкоджаны сцены.

Праводзіцца праверка. Прычына пажару высвятляецца. Асноўныя версіі – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні, парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**Сяржук Крупскі паводле МНС і УУС**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НЕ НАРОД ДЛЯ ДЗЯРЖАВЫ!

**Галоўным сімвалам новай эры і стаў прыназоўнік «для», што ўклініўся паміж назоўнікамі «дзяржава» і «народ». Гэта яму чалавецтва абавязанае нараджэннем таталітарных ідэалогій.**




На сайце «Незалежнай газеты» 30 студзеня я прачытаў артыкул «Нетаньяху прывёз з Расіі дзяўчыну і любоў выбаршчыкаў». 26-гадовую ізраільцянку завуць Наама Ісахар. У красавіку 2019 года яна была арыштаваная ў транзітнай зоне аэрапорта Шарамецьцева і прысуджаная да сямі з паловай гадоў турэмнага зняволення за захоўванне 9,5 грама гашышу. У дзень візіту ізраільскага прэм'ера дзяўчына была памілаваная і паляцела дадому на яго самалёце.

Далей цытата: *«Кіраўнік Цэнтра блізкаўсходніх даследаванняў ІМЭМА імя Я.М. Прымакова РАН Ірына Звягельская ў размове з «Незалежнай газетай» адзначыла, што ў Ізраілі ўважліва сачылі за візітам Нетаньяху ў Расію. «Гэта звязана і з блізкаўсходняй зьдзелкай, і яшчэ больш — са "справай Ісахар". Тое, што Нетаньяху змог яе вярнуць дадому, вядома, дадасць яму балаў падчас перадвыбарчай кампаніі», — сказала яна».*

Парламенцкія выбары ў Ізраілі адбудуцца 12 сакавіка. Не ў прыклад «Краіне пад белымі крыламі», палітычнага адзінства на Зямлі Запаветнай не назіраецца. Асноўная барацьба чарговым разам разгорнецца паміж блокам «Кахоль-Лаван», што ўзначальвае Бені Ганц, і правай партыяй «Лікуд» Нетаньяху. Паводле апытанняў, «Лікуд» можа разлічваць на 58 месцаў, «Кахоль-Лаван» — на 55.

Сіла Беларусі — у адзінстве. Прынамсі, у гэтым нас рэгулярна пераконвае дзяржаўная прапаганда. Наадварот, сіла Ізраіля — у канкурэнцыі. «Справа Ісахар» была б немагчымая ў краінах, у якіх парламенты не з'яўляюцца месцам для дыскусій. Складана сабе ўявіць, каб адзіны палітык (АП) ці яго расійскі калега асабіста заняліся б лёсам шараговага грамадзяніна, ды яшчэ асуджанага за наркотыкі.

Ну і цаца! І яе яшчэ за дзяржаўны кошт, і не эканом-класам, а на самалёце прэм'ера дадому даставілі. Але коштам авіяпералёту выдаткі ізраільскіх падаткаплацельшчыкаў не абмяжаваліся. Захавальнікі духоўных скрэпаў у якасці ўмовы памілавання грамадзянкі Ізраіля высунулі перадачу Расіі Лізавецінскага падворка ў Ерусаліме (гістарычны будынак у комплексе Рускіх пабудоў, плошчай 4 612 м²). І гэта ўмова была выканана!

**«Гэта ключавое»**

Мне ўжо неаднаразова даводзілася нагадваць, што дзяржаву для народа не варта блытаць з дзяржавай народа. Якая паміж імі розніца? Фармальна — нязначная: у першым выпадку прыназоўнік «для» прысутнічае, у другім — яго няма. Пра што, здавалася б, тут весці размову!

А між тым — розніца прынцыповая. У першым выпадку перад намі тыповая дзяржава бюракратаў, якія, зыходзячы з асабістых інтарэсаў, самастойна вызначаюць, колькі і на якіх умовах выдзяляць народу ад грамадскага пірага. Між іншым, ад таго самага пірага, які народ і выпякае.

Сваю ж долю таго пірага чыноўнікі ад народа імкнуцца хаваць. Варта прызнаць, што робяць яны гэта паспяхова. У прыватнасці, у Беларусі заканадаўчымі актамі не прадугледжаная магчымасць распаўсюджвання інфармацыі пра задэклараваныя даходы чальцоў урада.

А ва ўсіх нашых суседзяў прадугледжаная! Нават у рускіх — тых, што без знака якасці. А нам, відаць, той знак якасці перашкаджае. З ім рана ці позна (хутчэй позна, чым рана. — Рэд.) разбярэмся, аднак ёсць больш важкая прычына, імя якой — справядлівасць.

Калі хто забыўся, Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая прэтэндуе на ролю астраўка сумленнасці і справядлівасці. Не я гэта прыдумаў. Не з маёй адукацыяй і не з маім жыццёвым досведам падымацца да такога ўзроўню абагульненняў.

*«Справядлівасць павінна быць пакладзеная ў аснову ўсіх чалавечых узаемаадносінаў. І дзяржавы з чалавекам у тым ліку»*, — растлумачыў АП сваё разуменне месца справядлівасці ў беларускай мадэлі 3 лютага 2017 года, а для тых, хто не ўлавіў галоўнага, зрабіў важны дадатак: *«Матэрыяльнае становішча дзяржслужачых павінна расці або падаць у адпаведнасці з ростам ці падзеннем жыццёвага ўзроўню нашага насельніцтва. Гэта ключавое»*.

Але прадэкляраваць — гэта адно, а рэалізаваць на практыцы — зусім іншае. Вось для таго, каб грамадзяне не заўважалі разыходжанняў словаў са справай, у дзяржаве для народа і адсутнічае закон пра абавязковую дэкларацыю чыноўнікамі (слугамі народа) сваіх даходаў….

**Хавайся ў бульбу**

У пачатку 1990-х гадоў нацыянальна арыентаваныя грамадзяне прапаноўвалі замяніць у Беларусі рублі на талеры, а капейкі — на грошы. Безумоўна, такое аднаразовае дзеянне каштоўнасць асобна ўзятых жыццяў не падвысіла б, але яно стала б важным элементам напрамку, па якім варта было рухацца.

Сёння ж, у поўнай адпаведнасці з пачаткам новай эры чалавечага развіцця, якая стартавала ў 1917 годзе ды так і не завяршылася ў Беларусі, калі і можна казаць пра каштоўнасць чалавечага жыцця, то толькі аднаго.

Менавіта гэтым дзяржаўная прапаганда і займаецца на рэгулярнай аснове. Адзін прыклад: *«Таму найпершай задачай грамадзян-патрыётаў павінна быць пільнасць, якая тычыцца ўсіх праблем падтрымкі А.Р. Лукашэнкі народнымі масамі. Не забяспечыўшы патрэбнай і своечасовай падтрымкі прэзідэнту, мы ўсе разам патрапім у бездапаможнае і жалю вартае становішча, з якога не будзе выхаду на працягу стагоддзяў»* («Рэспубліка», 2005/04/05 №61).

Залатыя словы! Шкада толькі, што ўвасобіць іх у жыццё ў поўным аб'ёме так і не атрымалася. Не верыце? Тым, хто сумняваецца, прапаную звярнуцца да прэс-рэлізу нарады аб першачарговых мерах па забеспячэнні ўстойлівай работы аграпрамысловага комплексу Віцебскай вобласці ад 28 студзеня: *«Багатых людзей нямала. Папрасіце ў іх патрошку, хай адшчыкнуць вам у гэты фонд, разумеючы, што нам трэба сялян ратаваць (вылучана. — Рэд.)»*.

Сяляне — далёка не "ўсе мы". Доля сельскага насельніцтва ў 2019 годзе склала 21,6%, і ўсе яны трапілі ў бездапаможнае і жалю вартае становішча. І іх у тэрміновым парадку неабходна ратаваць. Але ў дзяржавы для народа сродкаў на выратаванне народа няма. Вось і даводзіцца ёй звяртацца да багатых людзей.

Дажыліся! Хавайся ў бульбу. Адно радуе, што бульба на сялянскіх падворках усё яшчэ расце.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# АБВАЛЬНАЕ ПАДЗЕННЕ

**Цягам 2019 года колькасць прыхільнікаў саюзу з Расеяй знізілася з 60,4 да 40,4 %. Пра гэта сведчаць вынікі сацыялагічнага даследавання Беларускай аналітычнай майстэрні Андрэя Вардамацкага.**

Беларуская аналітычная майстэрня праводзіла даследаванне ў снежні 2019 года. Сярод апытаных — людзі з розных рэгіёнаў Беларусі, прычым не толькі гарадское, але і сельскае насельніцтва.

Са звестак Беларускай аналітычнай майстэрні вынікае, што цягам 2019 года ў беларускім грамадстве адбылася змена геапалітычнай арыентацыі. Адсотак прыхільнікаў саюзу з Расеяй знізіўся з 60,4 да 40,4 %. Такім чынам, калі заўтра адбудзецца рэферэндум наконт геапалітычнага выбару Беларусі, то прыхільнікі саюзу з Расеяй не змогуць атрымаць абсалютнай большасці галасоў.

3 верасня да снежня 2019 года адбывалася абвальнае падзенне прарасейскіх настрояў: колькасць прыхільнікаў саюзу знізілася на 14,7 % за чатыры месяцы (з 54,8 да 40,4 %). Адначасова ўзмацніліся праеўрапейскія настрої ў грамадстве: колькасць прыхільнікаў уваходжання ў Еўразвяз вырасла з 24,4 да 32 %.

Менавіта ў перыяд з верасня па снежань назіраўся пік інтэграцыйных перамоваў і звязаных з імі пратэстаў. У верасні 2019 года ўрады дзвюх краінаў узгадніла праект праграмы дзеянняў па паглыбленні інтэграцыі і спіс дарожных мапаў. Цягам кастрычніка-лістапада праходзілі ўрадавыя перамовы наконт зместу мапаў, а ў снежні чакалася (але так і не адбылося) падпісанне гэтых дакументаў на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаваў. Цягам снежня ў Менску і іншых гарадах Беларусі адбылася серыя акцыяў у абарону незалежнасці і супраць інтэграцыі з РФ.

Абсалютная большасць беларусаў — 74,6 % — перакананыя, што Беларусь і Расея мусяць быць цалкам незалежнымі дзяржавамі, але мець сяброўскія дачыненні з адкрытай мяжой, адсутнасцю візаў і мытні. А вось 6,6 % апытаных лічаць, што стасункі з Расеяй не мусяць адрозніваццa ад стасункаў з іншымі краінамі, — то бок, павінны існаваць закрытая мяжа, мытня і візы.

За аб'яднанне Беларусі ды Расеі ў саюзную дзяржаву выказаліся 12,8 % рэспандэнтаў, а за ўваходжанне ў склад РФ — толькі 3,7 %.

Кіраўнік Беларускай аналітычнай майстэрні Андрэй Вардамацкі ў інтэрв'ю belsat.eu адзначыў, што зніжэнне прарасейскіх настрояў цягам 2019 года можна падзяліць на два этапы: паступовы (са студзеня да верасня) і абвальны (з верасня да канца снежня).

«Раней такога не было ніколі, — падкрэслівае Вардамацкі, — Прычына тэктанічнага абвалу носіць медыйны характар. Рэч у тым, што змянілася танальнасць вяшчання беларускіх медыяў адносна самой Расеі, а таксама стасункаў Беларусі ды Расеі. Танальнасць набыла больш негатыўны характар».

На думку Вардамацкага, геапалітычныя погляды беларусаў у 2020 годзе працягнуць фармавацца пад уплывам сітуацыі ў беларуска-расейскіх стасунках і танальнасці медыяў пры асвятленні гэтых дачыненняў.

«Паступовы адкат назад магчымы, але гэта будзе дастаткова цяжка зрабіць. Бо назіраецца пэўнае зацвярдзенне трэнду на зніжэнне прарасейскіх настрояў», — дадаў ён.

**belsat.eu**

АРМЕЙСКІ БЛОГ

# ТУШОНКА, БРУДНАЯ ВАДА І «РУССКИЙ ДУХ»

**Як выглядае беларускае войска знутры? Што адбываецца ў войску за высокім плотам? Пра гэта шчыра распавядае былы кандыдат у дэпутаты Аляксей Лазараў, які цяпер праходзіць тэрміновую службу ў Лепельскім раёне.**

**Побыт у войску — не цукар**

Паводле Аляксея, аб камфорце салдатаў аніхто не дбае. З кранаў у частцы цячэ вада ўсіх адценняў жоўтага, а на асабістую гігіену часам застаецца зусім мала часу.

— У цябе ёсць 30 секунд, каб памыць ногі, падпахі, пачысціць зубы і пасціраць шкарпэткі, — наракае Аляксей.

Часам, на водныя працэдуры жаўнерам даюць 5 хвілінаў — пры гэтым, на 10 чалавек усяго адна ракавіна.

— Нішто так не ўмацоўвае баявы дух, як адсутнасць дзвярэй у прыбіральнях. Менавіта там пачынаюцца самыя душэўныя размовы. Адразу ўспамінаецца «На Заходнім фронце без пераменаў», — распавядае Аляксей Лазараў у сваім блогу.

**Ежа часта не самая смачная**

Аляксей даволі часта каментуе ежу, якую даюць жаўнерам у войску. Ён наракае, што салдаты не ядуць цвёрдай ежы, іранізуе наконт мясцовых салатаў, і дзеліцца рэцэптам самай смачнай стравы за тэрмін ягонай службы. Фаварытам хлопца стала... тушонка з «Ролтанам»!

— Цікава, ці ёсць назва ў салаты, які складаецца з халоднага пюрэ і лука? — задаецца пытаннем Аляксей.

**У беларускім войску часам пахне «русским духом»**

Аляксей зазначае, што ў войску становяцца добра зразумелымі словы Лукашэнкі пра «фарпост Расеі». На першым тыдні службы ім чытала лекцыю аб веры, шкодзе Майдана і «гомасексуалізму» манашка. Ёсць і традыцыйныя лекцыі аб ідэалогіі ды вечаровы прагляд прагляд беларускіх афіцыйных навінаў. А вось расейскія навіны пасля тўіту Аляксея глядзець перасталі.

*(працяг на стар. 4)*

АРМЕЙСКІ БЛОГ

*(пачатак на стар. №3)*

**Трэба насіць нязручную бялізну**

Аляксей правеў падрабязны аналіз: што лепей — бялуга (звычайная вайсковая бялізна) ці тэрмабялізна. У шмат якіх салдатаў, у тым ліку і ў Аляксея, ад парашку, якім сціраюць «бялугу» пачынаецца алергія. Хуткі параўнальны аналіз паказаў — 6:0 на карысць тэрмабялізны.

**Крытыкуеш — прапануйвай**

У Twitter Аляксей ня толькі фіксуе, што адбываецца ў ягонай частцы, але і дасылае свае прапановы. Ён зазначае, што можна дазволіць карыстацца смартфонамі, зрабіць больш частыя звальненні.

— Дарэчы, чаму б нашым мабільным аператарам не зрабіць які-небудзь тарыф «салдацкі»? Без інтэрнэту, але для званкоў і смс? Пры заробку ў 30 рублёў нам адносна нятанна абыходзіцца мабільная сувязь. Добры быў бы піярход, — прапануўвае Аляксей.

**Хто такі Аляксей Лазараў?**

Аляксей Лазараў стаў вядомы падчас леташняй выбарчай кампаніі да Палаты прадстаўнікоў. Ён быў сябрам кааліцыі «Моладзевы блок» — аб'яднання актывістаў, якія абаранялі інтарэсы моладзі. Лазараў быў актывістам кампаніі супраць «закону аб адтэрміноўках» #учебаважней.

Хлапец скончыў факультэт радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій БДУ, працаваў праграмістам у адной з кампаніяў-рэзідэнтаў ПВТ. Праз «закон аб адтэрміноўках» пасля сканчэньня вучобы і выбарчай кампаніі ён адправіўся ў войска на паўгады. Аляксей служыць у вайсковай частцы ў вёсцы Заслонава Лепельскага раёну. У войску забаронена карыстацца смартфонамі, таму свой блог у Twitter ён вядзе праз СМС. А публікуе допісы адзін з ягоных сяброў.

**Ксенія Тарасевіч**
**Belsat.eu**

НАША СЛОВА

# ЭЙСМАНТЪ І ТАРАШКЕВІЧЪ

**Ёсьць на БТ тыднёвая праграма «Клуб редакторов». Вядзе яе дырэктар Белтэлерадыёкампаніі, г. зн. начальнік таго самага БТ Іван Эйсмант. Чарговы выпуск паказвалі акурат 21 лютага, у Дзень роднай мовы, і я вырашыў паглядзець, як рэдактары дзяржаўных СМІ ў палітычна выверанным дыскурсе праграмы закрануць праблемы беларускае мовы.**

Адразу скажу, што ніводзін зь іх так і не загаварыў па-беларуску ад сябе. Але тэму закрануў-такі сам Іван Эйсмант. І як закрануў! Чытаючы па-беларуску публікацыю Радыё Свабода з мэтай пакрытыкаваць герояў матэрыялу, ён некалькі разоў спыняўся (напрыклад, на назьве Менск), блытаўся — і ўрэшце зьедліва сказаў:

«Тут такой белорусский язык, я даже не знаю, как его назвать. В школе меня другому языку учили … тут просто столько мягких и твёрдых знаков после каждой буквы (...) Ну это не белорусский язык, это, конечно... не знаю, на каком написано».

Што ж, чалавек, які кіруе нацыянальным мэдыяхолдынгам, ня ведае, як «цьвёрды знак» выглядае і што беларуская азбука ня мае «цьвёрдых знакаў» ні ў якай функцыі, чым значна адрозьніваецца ад расейскай. Гэта веды пачатковай школы, нават не Акадэміі МУС, якую закончыў Іван Эйсмант. (Зрэшты, і там ёсьць абавязковы курс «Беларуская мова. Прафэсійная лексыка» з гістарычным кампанэнтам.)

Але пікантнасьць ня толькі ў гэтым.

«Клуб редакторов» трансьлявалі адразу пасьля галоўнага выпуску навінаў. А там, як звычайна 21 лютага — раз на год — далі трохі месца беларускай мове. Натуральна, «сур'ёзныя» палітычныя і эканамічныя тэмы толькі па-расейску (у нас два родных языка, — ацьверазіла наіўных вядоўца пасьля рытуальнага ўступу па-беларуску). Па-беларуску гучалі прагноз надвор'я, у парадку выключэньня спартовыя навіны, а таксама лірычна-эмацыйныя развагі пра мілагучную, родную і матчыну (і яшчэ дзіўны рэйтынг папулярнасьці беларускіх словаў: 1. гарбата; 2. чамусьці ґаўбец, хоць трэба гаўбец, і 3. шкарпэткі). Але тут жа — экскурс у гісторыю правапісу:

«...Спробы ўнармаваць беларускі правапіс рабіліся яшчэ сто гадоў таму. Аднак першым завершаным варыянтам працы навукоўцы лічаць выдадзеную ў 1918 годзе „Беларускую граматыку для школ" Браніслава Тарашкевіча».

Я, вядома, чакаў, як жа БТ растлумачыць нам, куды і чаму падзеўся спачатку правапіс Тарашкевіча, а потым і ён сам. Але тэму расстраляных мовазнаўцаў і гвалтоўнай «рэформы» правапісу ў 1933 годзе аўтары сюжэту далікатна абмінулі і пераскочылі адразу ў год 1959, калі наркамаўскі зрусыфікаваны правапіс быў крыху скарэктаваны.

У кожным разе — спачатку БТ расказвае гледачам пра станоўчую ролю Браніслава Тарашкевіча і яго правапісу для лёсу беларускае мовы, што чыстая праўда, а праз паўгадзіны галоўны начальнік таго самага БТ Іван Эйсмант зьневажае правапіс Тарашкевіча, адмовіўшы яму ў беларускасьці.

Вядома, зьняважыць такім чынам ён спрабаваў найперш Радыё Свабода, якое сьвядома карыстаецца беларускім клясычным правапісам. Але ж абразіў і знакамітага ўкладальніка правапісу, і Янку Купалу, і Максіма Гарэцкага, і Антона Луцкевіча, і Васіля Быкава, і ўсіх выбітных беларусаў, якія пісалі тарашкевіцай.

І ўсё ж самае інтрыгоўнае — як высьвятляецца, Іван Эйсмант ня ведае актуальнага пасылу галоўнай праграмы даверанага яму тэлеканалу... Мо ён і ня ўдзельнічае ў фармаваньні таго пасылу?

**Вінцук Вячорка**
**"Радыё Свабода"**

АЭС

# АТОМНАЯ ЛОВУШКА ДЛЯ ЛУКАШЕНКО

**Ну вот, клещи смыкаются. С одной стороны, Россия отказала Минску в смягчении условий кредита на АЭС. С другой — страны Балтии близки к консенсусу, чтобы заблокировать продажу электроэнергии с этой станции в Евросоюз.**

Когда-то Александр Лукашенко дал отмашку на проект Белорусской АЭС, чтобы ослабить энергетическую зависимость от России. Мол, не понадобится столько газа закупать (ныне 95% электроэнергии в Беларуси вырабатывается за счет российского газа), а излишки электричества соседям со свистом уйдут.

Сейчас, однако, вырисовывается фиаско этого грандиозного замысла по всем статьям.

**Вильнюс всех поставил на уши**

Литва с самого начала стала на дыбы, поскольку АЭС строится (уже почти построена) возле белорусского Островца, в 50 километрах от Вильнюса. Литовцы даже специальный закон приняли, в котором БелАЭС названа угрозой их национальной безопасности.

А теперь вот министр энергетики Литвы Жигимантас Вайчюнас сообщает, что с латвийскими и эстонскими партнерами вырабатывается общая позиция «для создания плана предотвращения импорта в балтийские страны электроэнергии, произведенной в Беларуси».

Раньше Латвия выглядела слабым звеном, вроде как польстилась на электроэнергию с БелАЭС, Эстония тоже не исключала ее покупки. Но вот сейчас в деле противодействия экспорту со станции в Островце три балтийские страны, похоже, консолидировались. 7 февраля на этот счет нашли общий язык их премьеры.

**Москва отказала**

Бойкот со стороны стран Балтии — это одна плюха Минску. С другой стороны, Москва ледяным тоном отказала в просьбе «отложить время начала выплат по кредиту» на АЭС, а также «раздвинуть срок этого кредита и несколько снизить процентную ставку». Такие желания на днях артикулировал первый вице-премьер Беларуси Дмитрий Крутой.

«Одновременно удлинить период использования средств кредита и уменьшить процентную ставку не соответствует финансовой теории, поэтому нужно искать компромиссы в другой плоскости», — ответил 11 февраля заместитель министра финансов РФ Сергей Сторчак.

Как известно, Москва хотела бы добиться от Минска уступок в плоскости «углубления интеграции». Но Лукашенко уперся, не желая, как он выразился, сдавать суверенитет за бочку нефти. Вдобавок наговорил российским партнерам резкостей — типа что они «нас раком поставили по углеводородам», имея в виду задирание цен на энергоресурсы.

Упорство по части суверенитета — это, конечно, хорошо. Но на таком фоне поза с протянутой рукой нелогична. Было бы удивительно, если бы Москва при нынешних терках разогналась пересматривать условия кредита на БелАЭС в сторону смягчения. Напротив, сейчас ее стратегия в том, чтобы посильнее прижать строптивого союзника финансово-экономическими рычагами.

**Вот так «ушли от зависимости»!**

И вот теперь самое время оценить мудрость и прозорливость белорусского руководства. С этой АЭС хотели как лучше, а получилось как всегда.

Между прочим, на стадии выбора подрядчика Минск рассматривал франко-германскую Areva и американо-японскую Westinghouse-Toshiba. Но в итоге предпочли российских братьев. Да, реактор вроде новой модели, но насколько качественно он сделан?

Стремительная технологическая деградация России видна невооруженным глазом. Только второго Чернобыля белорусам не хватало.

С Россией же придется решать вопросы покупки топлива для реактора, переработки радиоактивных отходов. И где гарантия, что при очередном раздоре Москва не прижмет этой зависимостью? Видите, как уперлась с условиями кредита. Причем надежды, что расплатиться помогут барыши от экспорта энергии с БелАЭС, тают в свете жесткой позиции Вильнюса.

Ранее Москва уже перестала давать деньги на рефинансирование взятых прежде Беларусью займов. Это означает, что нужно срочно скрести по сусекам казны и, возможно, расплачиваться за счет золотовалютных резервов. Необходимость отдавать с процентами кредит, взятый на АЭС (а это до 10 млрд долларов), лишь туже затянет финансовую петлю на горле Беларуси.

**БелАЭС — провальный проект**

По ходу оказалось, что белорусское правительство не имеет внятного плана, как использовать чертову тучу дополнительной энергии внутри страны. Теперь срочно придумывают, что бы еще перевести на электротягу. Но это тоже ведь денег стоит. Как и строительство новых линий электропередачи. И еще уйма сопутствующих расходов. Наконец, в гигантскую сумму обойдется со временем вывод станции из эксплуатации.

Кроме всего прочего, оказались испорченными всерьез и надолго отношения с Литвой. В отместку Вильнюс блокирует подписание Приоритетов партнерства Беларуси с ЕС, что мешает формировать институциональную базу сотрудничества с объединенной Европой. В общем, капитальный пролет по всем азимутам.

А самое смешное, что уменьшить потребление газа можно было и без АЭС, начни белорусское руководство в тучные годы нефтяного офшора структурную перестройку экономики. Достаточно было бы избавиться от неэффективных монстров социалистической индустрии, немеряно жрущих те самые российские энергоресурсы.

Но Лукашенко мыслил экстенсивно, в духе экономики старых времен. И сегодня оказался в атомной ловушке.

**Александр Класковский**
**политический обозреватель — для belsat.eu**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.02.2020 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.